Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. | Вільня, Нядзеля, 29 чэрвеня 1919 г. | № 32.

## Сяляне у турмах.

Віленская беларуская грамада на красамоўным прыкладзе грамадзяніна Карабача пераверылася, як трудна вызваліць цяпер з турмы, навет нявінаватага ні ў чым, чалавека. І чым далей ідзець час ад першых дзён польскай акупацыі, тым цяжэй зрабіць гэта. Калі зараз пасьля Вялікадня давалі раду у гэткім разе пасьведчаньні ад ксяндзоў і багатыроў-дамаўласьнікаў і сьлёзныя просьбы перад турэмшчыкамі блізкіх людзей заарыштаванага, главным чынам жанок з добраю польскаю гутаркаю, дык надалей і гэта ўжо далёка не заўсёды памагала. Прынамсі вызваленьню гр. Карабача а ні каліва не памаглі паперы краёвага беларускага органа—Цэнтральнай Рады і абарона паўнамоцнага мястовага прадстаўніцтва—Беларускага Нацыянальнага Камітэта м. Вільні. Паміж слоў трэба адзначаць якую-сь дзіўную непарушнасьць у гэтай справе вышэйшых асоб польскай ўлады. Ім выпала на долю паказаць у жыцьці роўнасьць да роўных і вольнасць да вольных. І яны, здолеўшы стаяць на болей-меней пэўнай высаце ў іншых выпадках (да прыкладу—вольнасьць друку), не зьвярнулі належнай увагі ў ня менш важным выпадку — як прыслухіваньне што разу да голасу прадстаўніцтва няпольскай нацыянальнасьці ў справе вызваленьня заарыштованых масавым спосабам людзей. Адно толькі прабачэньне можа тут быць: людзі на гарэ хацелі рабіць салодка, а людзі унізе рабілі горка. Што гэта найчасьцей было іменна так, уважаем за праўду дзеля таго, што ведаем, як месяц назад на канфэрэнцыі спраў друку шэф сэкцыі прэзыдыяльнай Ком. «Усходн. зям.» пан Рачкевіч вельмі шчыра і з гонарам праўдзівага эўропейца-дэмократа запрашаў прадстаўнікоў прэссы высьцярагацца хоцьбы нявольнага распаліваньня няпрыязьні да польскай нацы, асабліва да войска, бо вайна—заўсёды вайна, і дэкляраваў, што за колькі дзён (3—4), як толькі цывільныя кіраўнічыя возьмуць Вільню ў сваю апеку, усялякіх эксцэссаў, як дзікае парушэньне элементарных правоў грамадзяніна места Вільні, больш ня будзе. Тымчасам прайшло ня 3—4 дні, а значна болей, а далёка ня ўсе эксцэссы вызвычаіліся з віленскага жыцьця. Значацца, вышэймянутае «прабачэньне» мае пад сабою нейкі грунт... Але ня ў тым глаўная справа—гэта характэрна дзеля таго толькі, што калі і ў месьце магчымы такія прыгоды, дык што-ж казаць аб вёсцы? Надоячы прыбег у рэдакцыю «Б. Д.» з стрэльбай на плячу нейкі «пан рэвіровы» Кука, аб каторым ня дужа даўно зьявілася у «Белар. Думцы» заметка нашага Тургельскага дапісчыка («Пакора і плебісцыт» № 23), што ён трос кулаком пад носам сялян, вымагаючы, каб яны здымалі перад ім шапкі. Гэтаму пану ў Рэдакцыі сказалі, каб ён супакоіўся і напісаў запярэчаньне. Цераз колькі дзён пан Кука, замест таго, прыйшоў шукаць рэдактора ў друкарню і прывёў з сабою 6 чалавек... Дык вось, калі гэтакі «пан рэвіровы» Кука, бышы рускі ні-то афіцэр, (як ён кажа) ні-то фельдфэбель, пачне паказаваць *сваю* роўнасьць і вольнасьць, блага будзе тым, каго ён апякае! Тымчасам, дзякуючы такому палажэньню, шмат сялян-беларусаў, быўшых бальшавіцкіх камітэтчыкаў, трапілі ў віленскія турмы і знаходзяцца там дагэтуль. І яшчэ напэўна невядома, хто больш „нутраны“ вораг для польскай справы: ці гэтакі «бальшавік» сялянін ці гэтакі пан рэвіровы Кука.

Сялянін любіў „бальшавікоў“ так-жа горача, як цяпер любіць паноў рэвіровых, падобных да Кукі... Але папаўся і сядзіць, і пакутуець каторы месяц. Што робіць Цэнтральная Беларуская Рада Віленшчыны і Горадзеншчыны, каб ратаваць братоў-сялян? Напэўна, што-сьці робіць. Мы мусім сказаць, што гэта вельмі важная справа, і калі праца Рады па вызваленьню сялян мае гэткі-ж рэзультат, як па вызваленьню грам. Карабача, дык грамада беларуская мусіць аб гэтым ведаць. Мы мусім ведаць, ці доўга яшчэ будуць сядзець у турмах няма ведама за што беларускія сяляне? Няхай нам аб гэтым скажа ці Беларуская Рада ці польская ўлада. Паміж іншым, чаму нічога ня чуваць аб камісіі, якая, памятаецца, згуртована была дзеля разгляду спраў заарыштованых, каб вызваляць нявінаватых? Ці яна разглядала справы сялян-беларусаў? І што рабіў і робіць беларускі прадстаўнік, калі ён быў ў гэтай камісіі?

*Сам селянін.*

## Да сыноў Беларусі

*(Пісьмо з вёскі).*

Шмат хто з беларусаў ня толькі забыўся на сваю родную гутарку, але навет забыўся, што ён беларус; ён стыдаецца таго, што беларус. Адны кажуць, што яны палякі (бо іх навучылі казаць: *ты католік, дык ты паляк*); другія кажуць, што яны літоўцы, бо яны хочуць з гэтага мець сабе якую-кольвек карысьць; трэцыя кажуць, што яны маскоўцы і г. д. Як яно сабе там хацела, але мне здаецца, што гэтак надта нядобра: ня трэба забывацца на сваю родную матку, ня добра, як сын выракаецца яе. Няхай гэтакі беларус падумае, ці добра ён робіць, калі йдзе да чужых. Няхай пагаворыць ён з сваім сумленьнем, і яму будзе брыдка.

Ня трэба нам чужых матак, ёсць у нас свая родная матка—Беларусь. Не стыдайцеся сваей простай гутаркі, бо яна ня так проста, як гэта здаецца, бо ў нашай, мове навет быў калісьці напісан Літоўскі статут (законы). А здаецца нам, што яна проста, бо нас вучылі другім мовам, аб ёй-жа казалі, што яна «простая». Гэта рабілась ды і робіцца дзеля таго, каб мы забыліся, хто мы ёсць і што мы ёсць. Ня можна казаць: «Мне ўсё роўна, хто-б да нас ня прыйшоў, хтоб-б тутака намі ня кіраваў». Не, ня праўда гэта, ня ўсё роўна! Калі намі будзе кіраваць хто-сьці другі, чужы, дык яму ня будзе балець наша балячка, ён будзе рабіць ня дзеля нас добра, а дзеля сябе.

І калі вы ня хочаце быць хлопамі, батракамі ў паноў маскоўскіх, польскіх, жыдоўскіх і інш., дык ляціце-ж барджэй дамоў і гуртуйцеся каля сваей Рады, гуртуйцеся да й будуйце сваю Бацькаўшчыну. Толькі ў сваёй хаце вы знойдеце і супакой і шчасьце, і долю. Ніхто над вамі ня будзе здзекавацца, як здзекаваўся дагэтуль. Старая пагудка кажаць: «Добра ў гасьцей, але ў хаце і ляпей і прасьцей». Праўда, што мы бедны, але гэта таму, што мы не баронім сваей Бацькаўшчыны, што яе усе абдзіраюць, як тую ліпку. Ад нашых хатак засталіся толькі груды смецьця, а мы яшчэ і самы памагалі руйнаваць іх, а цяпер кажам што мы бедны, што ў людзей ляпей.

Працуйце-ж, браты мае, ў хаце, дык і ў вас будзе багацьце; рабіце пільня, дык і ў хаце будзе Вільня.

Хай жыве наша Бацькаўшчына.

*Я.—К.*

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

## Весткі Польскага Генеральнага Штабу.

*25 чэрвеня.*

**Фронт Галіцыйска - Валынскі.**

На Галіцыйска-Валынскім фронце сільная баёвая дзеяльнасць: трыкратныя атакі украінцаў на Астроўчык Польны былі адбіты з вялікімі стратамі для ворага. Аддзелы нашы дайшлі і заатакавалі Бельжац і Буржак. Адбіта таксама атака украінцаў ў раіоне Гелогуў. Украінцы панеслі вялікія страты ў забітых і раненых. Мы забралі палонных і 1 кулямёт. Паміж Рагатынам і Бурштынам бойкі істнуюць. На Валыні пад Рафалаўкай безперастанная страляніна з ружжаў.

**Фронт Палескі.** Без перамены.

**Фронт Літоўска-Беларускі.**

Ажыўлёная дзеяльнасьць разведчыкаў з боку непрыяцеля ў раіоне Карэліч; на рэшце фронту спакой.

### Бойкі у Пазнані.

ПАЗНАНЬ, 25 чэрвеня. Камунікацыя Глаўнага Даводзтва.

**Паўночны фронт.** У начы нямецкая артылерыя абстрэлівала Буднякі, Замосьць і Вэнглёва. На паўноч ад Будзыня і каля Вэнглёва бойкі з нямецкімі патрулямі.

**Заходні фронт.** Пад Горадняй і Вэнгельнам слабы агонь кулямётаў. На другіх пунктах фронту спакойна.

**Паудньовы фронт.** У Кеннінскім і далей сільная дзеяльнасьць нямецкай артылерыі і патрулёў. На другіх пунктах бойкі з нямецкімі патрулямі.

## Весткі Літоускага Генеральнага Штабу.

*Ад 22—23 чэрвеня.*

На паўночным вучастку, вораг панёс вялікія страты, адбіваючы нашыя контр атакі.

21 чэрвеня нашы атрады, бязупынна робячы рэкагнасцыроўкі, ідуць наперад на ўсім фронце пры супольнай дзеяльнасьці нашага левага крыла з латышскімі і эстонскімі атрадамі. Наш напад неўспадзёўкі на бальшавікоў, змусіў іх уцякаць у бок Дзвінська. У некалькіх пунктах часткі бальшавікоў, абкружаныя намі, павінны былі здацца. Палонныя і шмат ваеннай здабычы, яшчэ не зьлічаны. Літоўскія войскі займаюць цяпер лінію Баўверч—Ласэн—Ялоўка—Раўтэзонія. Кавалерыя наша з пасьпехам гоніць адступаючага ворага. На правам крыле дзеяльнасьць разьведчыкаў.

Пры вёсках Лангель—Дышконы значныя стычкі атрадаў разьведчыкаў.

Бальшавікі адступаюць.

### Адстаука Гіндэнбурга.

ВЕНА, 26 чэрвеня. Венскае Карэспанданцыйнае Бюро падае да ведама з Калабжэгу: Глаўнакамандуючы войск Гіндэнбург злажыў з сябе паўнамоцтва. Гронэр, шэф генеральнага штабу, таксама падаў у адстаўку, але абецаўся, пакуль ня урэгулююцца адносіны на Усходзе, застацца. (П. А. Т.)

### Бойкі на вуліцах Гамбургу.

ВЕНА, 26 чэрвеня. Венскае быро піша з Бэрліну: „Berliner Ztg. Mitag." апавяшчае з Гамбурга: «Неспакой, які быў тут з прычыны даражыні і нястачы прадуктаў, выліўся у рэгулярную бойку на вуліцах. Грамада штурмавала ратуш, пасьля кінулася к дому біржы і падпаліла яго. Пажар патушылі. Сягоньня нараніцы каля ратушы бойкі з аружжам. Войскі адбівалі атакі; пакуль што лічыцца 10 забітых і 50 цяжка эраненых.

### Тэлеграма Леніна да Бэла-Куна.

ВЕНА. Кар. «Св. Сл.» піша: Бэла-Кун, што стаіць на чале бальшавіцкага вэнгерскага ураду, атрымаў тэлеграму ад Ленін, у якой ён даводзіць вэнграм, каб яны ня, гледзячы на Антанту, цягнулі далей вайну з чэхамі, бо ў хуткім часе расейская чырвоная армія злучыцца з вэнгерскай. Ленін піша, што наступленьне ў Усходняй Галіцыі проціў палякоў пачата, каб правацца у Вэнгрыю. Водле абецанкі Леніна, злучэньне вэнгерскіх войск павінна быць да падпісу немцамі мірнага трактату. І калі нам удасцца разбіць палякоў, піша ён, то і ў Польшчы выбухнець бальшавіцкая рэвалюцыя, у Чэхіі таксама. Тады ў Нямеччыне зробіцца пераварот, і варункі міру, азначаючыя поўнае панаваньне капіталізму, ня будуць падпісаны.

### Дзень нацыянальнай жалобы у Нямеччыне.

БЭРЛІН, 24 чэрвеня. Пасяджэньні Нацыянальнага Сабраньня адложаны да 1 ліпня. Нямецкая народная сялянская партыя падала думку, каб дзень 22 чэрвеня, калі была вынесена пастанова аб падпісаньні міру, лічыць днём нацыянальнай жалобы.

### Адозва Носке.

НАУЭН, 24 червеня. Міністр дзяржаўнай абароны Носке выдаў ніжэйследуючую адозву. Дарма я стараўся„ каб кабінэт не падпісаў трактату аб міру. Большасьць была проціў мяне. Дзеля шмат гадовай нужды і голаду народ наш патрацыў энэргію. Міліёны хочуць свабоды і міру. Увесь нямецкі захад здрыгаецца пры думцы аб прыходзе ворагў. Гэта няшчасьце можа ня быць, калі мы будзем пакорнымі волі ворага. Няма ведама, ці гэты нам удасцца. Я нё забыўся аб тых, што водле варункаў міру, змушаны адмовіцца ад службы. У гэтым страшным няшчасьці мы зьвяртаемся да пачуцьця гонару кажнага начальніка і кожнага салдата, каб яны ня забыліся аб патрэбе цьвёрдай выдзержкі.

### Наступленьне Денікіна.

КАНСТАНЦІНОПАЛЬ. Кар. «Св. Сл.» піша, што ў наступленьні Денікіна на Харкаў, ня лічучы дабравольцаў і данскіх казакоў, прыймаюць вучасьце таксама кубанцы і терцы. Усе казакі вельмі абурэны проціў бальшавікоў за ніжэйследуючы вы-

## Дзьве душы.*)

V.

На другі дзень ён ня сустрэўся з Аляю. Яна паехала з маткаю на станцыю Мінеральныя Воды: чакалі, што прыедзе Мікола Мартынавіч.

У парку Абдзіраловіч знайшоў макасеевскую нянька з дзяцьмі і нейкі час пабыў з імі.

Малодшы хлопчык, паміж гутаркі аб прыезджаньні татульки, сказаў:

— А наш татулька вельмі ня любіць „таварышаў". І князь кажа, што яны— хуліганы.

— Калі падрасьцеш і пачнеш цяміць усё сам, дык пабачыш, Валя, што гэта можа быць, ня зусім так.

— А чаму вы іх абараняеце? Князь казаў, што яны жалаваньне ў афіцэраў адбяруць, а вы іх бароніце.

Дзіцёнак памаўчаў. Відаць, ён мяр каваў нейкае пытаньне і ня важыўся папытацца.

— А любіце вы мужыкоў?

— Люблю.

— А я не. Яны усе вельмі дурныя.

— Няпраўда, Валя.

— А князь казаў, што праўда. Ен казаў, што за мужыкоў толькі тыя афіцэры, каторыя самі з мужыкоў.

— Дык ты, Валя, думаеш, што і я з мужыкоў, так? Ты хацеў спытацца ў мяне?

Хлопчык пачырванеў і ўтупіў вочы.

— Я ня ведаю,—шапарнуў ён.

А Мікола Мартынавіч ня прыехаў, і матка з Аляю зрабілі на другі дзень невялічкую вечарынку.

Пры сустрэчы, паміж слоў, запрасілі Абдзіраловіча, але ён пасьля вяч эры забавіўся у лазарэце. У страўні да яго падсеў вайсковы чыноўнік, вядомы латышскі актор-мастак, хворы на сухоты, звычайна не гаварлівы надта чаловек. Ен пачаў распытавацца аб учарашнім сходзе беларусаў, запрасіў прапаршчыка да сябе ў палату, частаваў кавуном і вінаградам і даткнуўся яго палітычных пагладаў.

— Вы з пэўнасьцю спачуваеце бальшавіком?—спытаўся ён.

— Не, — адказаў Абдзіраловіч па шчырасьці;—мне ня ймецца веры ў магчымасьць істнаваньня самастойнай ўлады радаў нашага пралетарыята і,наагул, камуністычнага ладу жыцьця. Гэта пакуль утопія.

У таго пайшлі на правай шчацэ плямкі, і ён раптам зьмяніў голас.

— А, та-а-ак,—працягнуў ён:—значацца, я вас ня добра разумеў. Мне пераказавалі, з прыгоды вашага выступу на сходзе, зусім што іншае. Значацца вы за хаўрус з такімі ягамосьцямі, як нашае сіяцельства, каторае, колькі мне ведама, ня дужа, аднак, шануе вашую асобу і не адмовіцца, бадай, падставіць вам ножку хаця-б у інтымных справах.

Латыш нэрвоваўся. Абдзіраловіча кальнула.

— Гэта другое пытаньне... Але палітыку ураду у цяперашнім складзе я лічу справядлівай і буду, у разе патрэбы, бараніць яе так, як належацца салдату, і проці усякага ворага.

— А, та-а-ак...—ізноў працягнуў той і насілу, а наўмысьля усьміхнуўся;—ну, ведама, проці ўсякага ворага... Балазе ў радах гэтых ворагаў няма роднага або блізкага чалавека. Балазе й самі-ж вы, мяркуючы, так сказаць, па адзнаках звонку—белая костка.

Каб не пасварыцца, Абдзіраловчі

*) Гл. № 24—30.

падак. У канцы красавіка у Растоў прыходзіла з Расеі дэпутацыя з 8-х сялян цэнтральных губэрняй і 2 праваслаўных сьвяшчэньнікаў. У аднаго з іх, 60-цёх гадовага старца, былі абрэзаны вушы і напалову адарвана ніжняя губа. Дэпутацыя прывезла шмат дакумэнтаў і фатаграфій, якія сьведчаць аб зьверствах бальшавікоў. Дэпутацыя прывезла таксама абраз Божай Маці і Хрыста з выкаленымі вачамі. Дэпутацыя абʼехала глаўныя гарады і станіцы Данскай, Кубанскай і Церскай вобласьцяў, дзе ўсім апавядала аб тым, як зьдзекуюцца бальшавікі над рэлігией і жыхарамі, і прасіла казакоў выратаваць Расею.

### Кранштадт заняты.

Учора ў Варшаве ў пасольскіх кругох разыйшліся весткі, што у Кранштадт вайшла ангельская эскадра.

### Бойкі пад Уфой.

ПАРЫЖ, 26 чэрвеня. З Омска пад датай 16 г. м. падаюць да ведама, што на поўдзень ад Уфы, войскі Колчака адагналі атакуючых бальшавікоў за раку Берагу. Бальшавікі пераходзячы раку панеслі вялікія страты ў людзёх. Войскі Колчака адабралі ад чырвонаармейцаў 30 кулямётаў.
(П. А. Т.)

### Выдаткі Амэрыкі на вайну.

ВАШЫНГТОН, 26 чэрвеня (Радзіо пазнанск. ст.). Сэкрэтар Злучаных Штатаў, Бакэр, выясніў Камісіі, лічучай ваеныя выдаткі, што Злучаныя Штаты ў часе вайны выдалі на войскі, флот і на лётаньне 14,544 мільёнаў доляраў. (П. А. Т.).

### Штукі рэакцыяністаў.

ЛЕНДАН, 26 чэрвеня (Радзіо пазн. ст.). З Бэрліна тэлеграфуюць, што аддзел нямецкага войска уварваўся ў замак у Вэймару, дзе пражывае Эрцбэргер, і патрабавалі, каб яго выдалі ім, хочучы яго павесіць. Эрцбэргер пасьпеў уцячы з Вэймару. Другая тэлеграма з Бэрліну паведамляе, што пасланыя рэакцыяй хацелі таксама спаймаць і забіць Шэйдэмана. (ПАТ).

### Фінляндская рэспубліка.

ГЭЛЬСІНГФОРС, 24 чэрвеня. Фінскі сойм зацьвярдзіў учоры 165 галасамі проці 22, новую канстытуцыю. У першы раз празыдэнт будзе выбраны і соймам і праз галасаваньне. (П.А.Т.)

## Беларусь.

### Справаздача аб працы на ніве беларускага адраджэньня у вокрузе акупацыйнага павету—Падбродзе.

Кут гэты, кінуты на ўсход ад Вільні, ціхі і спакойны да вайны, перажыў у яе часе паўнейшы паравbooт грамадзкай і палітычнай думкі. Сілай, патрапіўшай эвакуацыю, сьпячую дагэтуль масу сялянства, была мясцовая моладзь, кіраваная моцнай рукой сваіх ідэёвых правадароў. Умела кінутая іскра, аббегшы абшар у міль пяток удоўжкі і ўшыркі, з бліскавічнай шыбкасьцю зрабіла адзін усьцяжны пажар. Усе пры першай можнасьці кінуліся да працы, глаўным цэнтрам каторае сталіся Клюшчаны (мястэчка за 4 міді на ўсход ад Падбродзя).

Як толькі адыйшлі маскалі, наскора былі арганізаваны вучыцельскія курсы, пасьля якіх тутэйшыя вёскі пакрыліся сецьцю пачатковых беларускіх школ. Дзеля дагляду школ быў арганізаваны «Сялянскі школьны камітэт» с самых-жа сялян і іх добрых правадыроў. Помачы урадовае ня было ніякае, і аплачываць школы давялося самым-жа сялянам. Бяднейшых аплачывала дабравольная складка багацейшых гаспадароў.

Каб падтрымаць істнаваньне гэтых даўна пажаданых асяродкаў асьветы, мясцовы гурток моладзі ладзіў народныя гульні. Былі аматорскія прадстаўленьні, народныя песні і г. д.*) Гэтыя гульні давалі за кожным разам досыць паказную суму чыстага даходу, каторая і была цалком абернута на патрэбы бяднейшых школьнікаў. Да гэтага многа прычыніўся і мясцовы хор, арганізаваны годам раней на падставах нацыянальнага усьведамленьня. Каб асьведамляць народныя масы і пабуджаць у іх любоў да ўсяго роднага, беларускага, ладзіліся адчыты на тэмы дня і тэмы навуковыя, ладзіліся дэклямацыі з выбранае беларускае літэратуры і г. д. Мясцовы хор пеяў нашыя пекныя народныя песьні.

Трэʼ зазначыць, што ўсё такія сходы, апрыч самых толькі спэктакляў, ладзіліся патайком ад зоркага вока нямецкага жандарма. Апошнія, найчасцей з пазнанскіх палякоў, маючы хэўру з мясцовымі ворагамі нацыянальнага усьведамленьня, шкодзілі нам, як толькі маглі. Пры такіх варунках праца над усьведамленьнем народных мас была нам вельмі цяжкой.

Усё гэта, аднак, яшчэ болей цікавіла і людзей і прыцягівала да цясьнейшай сувязі болей прыдатныя элемэнты сялянства, як моладзі, так і асоб, векам старэйшых.

З упадкам царызму і выбухам рэвалюцыі у Расеі сочка сялянскіх настрояў праз тых-жа кайзэраўскіх завушнікаў яшчэ болей узмацавалася. Прычына гэтаму ясная: акупанты баяліся прабіваньня рэвалюцыі ў абшар іхняе акупацыі. Усялякае тагды жыцьцё і праца у яўных гуртках мусіла прыпыніцца і зыйсьці на грунт нелегальны. Настаў тагды фазіс грунтоўнае працы над усьведамленьнем самых сябе, але лік вучасьнікаў, дзеля канечнай патрэбы мець бязьпечнасьць, быў зьменшаны.

Гурток моладзі, такім парадкам, зьменшаны уа лічбе, па некаторым часе натуральнай самаадукацыі, ўзрос у сіле духоўнай. Каб з большаю карысьцю для сябе змагацца за ідэю, арганізаваўся «Хаўрус Сваякоў», таксама нелегальны перад акупацыйным правам. Глаўнай мэтай Хаўрусу была па магчымасьці найшырэйшая самаадукацыя і дакладнае пазнаньне свяей старонкі з кождага боку: гістарычнага, геаграфічнага, літэратурнага, палітычнага, эканамічнага і г. д. Пастаўленая мэта дапінался супольнай хаўруснай працай: ладзіліся

*) Першы спектакль адбыўся у першай палове чэрвеня 1916 г., т. ё. раней, чымся пасьпеў ачуняць тэатр віленскі.

---

хацеў ужо ўцячы ад сухотніка. А добра—пастукалі.

— Зробце ласку!—крыкнуў латыш.

Адчыніліся дзьвery, і дзяўчына,—казачка, дагляданьніца хворых, падала прапаршчыку сэкрэтку.

— Вам пасланец пісулечку прынёс,—ласкава прамовіла і прыхільна паглядзела яна.

„Ігналік! Прыходзьце зараз. Чакаю. Аля“—з радасным тамаваньнем у сэрцы прачытаў ён і пачуў ізноў прыязнасьць да раздражнёнага актора і трошку нейкую вінаватасьць перад ім.

— Даруйце, як ласка. Прашу прабачэньня... пайду,—з ясьнеючай усьмешкай жмаў ён яго руку.

— Так, так... нічога. Не марнуйце часу: вам, здаецца, некалі,—безуважна і сьцюдзёна адказаў хворы.

Абдзіраловіч ляцеў на крыльлі да Макасеяў, аднак-жа спозьніўся.

Тут ужо было многа каго, у той лічбе і князь.

Ен сядзеў з гаспадыняй каля самавара і з паважным выглядам аб нечым гаманіў з ёю.

Прапаршчык Кунст іграў на гітары. Аля і дзьве малыя сястрычкі вярцеліся у вальцу з афіцэрамі.

Пакуль Абдзіраловіч падайшоў да столу, князь пасьпеў адыйсьці ў вугол, дзе быццам надта зацікавіўся нейкаю гравюраю.

Гаспадыня сяньні высакасэрда падставіла Абдзіраловічу руку і ня сустрэла паўсёднымі жартамі, як ён дружыць з Алечкаю, і запрашаньнямі «пачаставацца».

Толькі Аля, як скончыўся танец, углядзіўшы, скоранька падбегла да яго. Чорныя вочкі блішчэлі і казалі тое, што толькі ён і яна разумелі. Дзяўчынка з пяшчотаю шлёпала яго па руцэ, кажучы: „Нядобры, нядобры! Ня можна так пазьніцца. Мы з мамаю ўчора бачылі вас у Пяцігорску два разы, а вы ніводнага разу ня мелі ласкі заўважыць нас. Зпачатку вы ехалі ў трамваю. Потым ішлі з нейкімі «таварышамі»... Мама вельмі зьдзівілася. А мне ўсё роўна, толькі ня можна было падыйсьці—шкода“... —І потым дадала, заглядаючы зьнізу у глыб яго вачэй: «Сэкрэтачку атрымалі?»

— Ага,— адказаў ён нутраным, з дрыжачымі ноткамі голасам, і глядзеў на чорна блiскучыя, курчавыя пасмачкі, і нязвычайна ясна зразумеў, якая-ж дзяўчына яму блізкая і як яна люба яму.

Князь рана пайшоў; ён гэта прыкмеціў.

Матка Алі быццам і не зьмяніла ласху, хоць і была якая-сь ужо не ранейшая, і Абдзіраловіч прагуляў вечар шчасьліва, як ніколі. Скакаў з дзяўчынкамі, Алінымі сястрычкамі, сыйграў для ўсіх што-сьці на гітары з асаблівым мастацкім захапленьнем; астаўся з Алечкаю на балконе, глядзеў на ясныя зорачкі на далёкім небе за чорнаю сьпячаю аграмадзінаю Бештау. Апавядаў некалькі падзей з свайго жыцьця; намаляваў ёй абраз свайго дзяцінства і маленства; разьвіваў пляны на будучыню.

Яна, далікатненькая і кволая, са зьбялелым у цямноце тварыкам, з любасьцю слухала яго, паклаўшы яму на плечы свае рукі.

Спачатку матка прыслала сястру з хвусткаю, а потым—каб гукнуць іх у пакоі, каб не застудзіліся.

*(Далей будзе).*

**М. Гарэцкі.**

таварышскія гутаркі і адчыты на пастаўленыя сабе наперад тэмы рожных адценкаў навукі. Дзякуючы супольнай працы, удалося ня толькі падтрымаць ужо дагэтуль гарэўшы агонь нацыянальнай сьвядомасьці, але і падліць у яго яшчэ добрую мерку алівы, чаго вымоўным доказам было з'ядананьне сабе новых прыхільнікаў, адкрыцьце ўсьцяж новых беларускіх школ і г. д. Так трывала бязупынная праца да канца мінулага 1918 г.

Палітычныя перавароты і іншыя патрэбы змусілі добрую частку моладзі пакінуць часова свой кут і йсьці ў сьвет шырокі для набраньня новых запасаў сіл, сьветлых дум, жыцьцёвых праканаьняў і гарту волі, каб у належны мамэнт зьявіцца пад родную страху ўзноў і пакіраваць сваім лёсам паводлуг свае волі і прыналежнага нам спрадвеку права гаспадароў у сваёй хаце.

**С. Н. S.**

# У ВІЛЬНІ.

### Бульба.

Дзеля таго, што бульба ў спажыўных крамах хутка псуецца, трэба пасьпешацца купляць яе на картачкі. Дзеля гэтага самага Магістрат загадаў, каб бульбу кончылі прадаваць у панядзелак 30 чэрвеня.

### Ува усіх краёвых мовах.

Бурмістр загадаў, каб просьбы, якія пішуцца ў Магістрат, прыймаліся ўва ўсіх краёвых мовах. Далей у загадзе сказана, што краёвымі мовамі нельга лічыць расейскую і нямецкую, і ніякія паперы, напісаныя парасейску або панямецку ня будуць прыймацца.

### Беларускае войска.

«Виленскій Курьеръ» напісаў, што «ў зьвязку з астатнімі палітычнымі падзеямі наагул, работа па сфармаваньню беларускага войска ідзець у сьпешным парадку. Сфармаваньне першых эшалонаў мяркуецца к пачатку ліпня».

Шкада, што «В. К.» ня піша, дзе і хто фармуе нашае войска і каго туды прыймаюць?

### Няшчаснае здарэньне.

Учора, 28 чэрвеня, ў 12 гадзін, на Вялікай вуліцы, наўпроці ратушы, наехаў лёгкі вайсковы аўтамабіль на хлопчыка гадоў 12—цёх і маладую інтэлігентную кабету. Няшчасных паднялі у вельмі цяжкім палажэньню і павязьлі на тым-жа аўтамабілю у бальніцу.

---

**Прыезджых з Менску, Смаленску і другіх гарадоў Беларусі Рэдакцыя вельмі просіць захадзіць да яе і прынасіць з сабою, калі есьць, газэты, якія там цяпер выходзяць. Рэдакцыя плоціць добрыя грошы.**

## Пісьмо у рэдакцыю.

Пане Рэдактар!

Прашу Вас замесьціць у газэце „Беларуская Думка“, што па матывах прынцыпіяльнага і асабістага свойства я адмовіўся 27-га чэрвеня (юня) гэтага году ад далейшай працы ў Беларускай Радзе Віленшчыны і Горадзеншчыны.

*М. Кахановіч.*

28 чэрвеня 1919 года.
Вільня.

### Максім Горкі аб рэвалюцыі.

Максім Горкі сказаў дапісчыку ангельскай газэты, што рэвалюцыя у Расеі ня толькі не канчаецца, але, наадварот, яшчэ толькі падходзіць да свайго асяродку.

Рэвалюцыя,—кажа Горкі, — павінна завяршыць да поўнасьці свой абшар, і ніякія сілы звонку таму перашкодзіць ня могуць. А самае важнае самзначнейшае у гэтым абшару ёсьць пераход усей улады к сялянам, каторыя у Расеі складаюць значна пераважную большасьць.

І, дзеля таго, хада падзей, па думцы Горкага, будзе гэтакая. Сяляне завааладзеюць усім дзяржаўным аппаратам, зьніштожаць „панскую“ культуру і уплыў горада, а самыя гарады амаль ня зрыюць да зямлі.

Што будзе далей — Горкі не дагаварывае. Ен толькі дадаець, што у Расеі робіцца тое самае, што дзеілася у 15 веку ў Галяндыі. „В. К.“.

---



*Хто прыезджае у Вільню і мае хоц калiуца часу пахваліцца сваімі мясцовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—няхай ен будзе ласкау не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*



БЕЛАРУСЫ! Купляйце і пашырайце сваю газэту. Пішэце у сваю газэту.

Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.